8 ВЕРАСНЯ 1999г. СЕРАДА

# НАВІНЫ

№102 (633) КОШТ СВАБОДНЫ




## 17 октября мы будем вместе

Прочитав 1 сентября в вашей газете материал «Марш свободы», я почувствовал себя ребенком, которому вот-вот придется пойти в первый класс. Многое из того, что прочитал, оказалось для меня впервые.

Впервые я понял, что белорусские демократические силы могут объединить свои усилия для достижения общей цели. Представить подобное еще пару лет назад было невозможно. Скорее всего, сказалась смена поколений в белорусской политике. Как-то незаметно на первые роли вышли те, кого мы не так давно называли «молодыми политиками». А ведь если разобраться, то молодыми политиками можно считать пацанов из Молодого Фронта или «Гражданского форума». А в 35-40 лет человек в состоянии решать самые серьезные задачи, включая государственные. Даже в соседней России самым толковым премьер-министром, на мой взгляд, был Сергей Кириенко, которому на тот момент было всего 35 лет.

Когда я увидел фотографию тех, кто сегодня олицетворяет собой оппозицию, мне, 34-летнему человеку, захотелось занять место в ряду своих сверстников. Практически всех их я знаю по публикациям в независимой прессе, и они мне кажутся людьми порядочными и серьезными.

Обрадовала меня и новая тактика оппозиционных сил. Совсем недавно, общаясь в кругу своих коллег-предпринимателей, я предположил, что демократам не надо распылять ресурсы на десяток акций, а нужно тщательно подготовить и провести такую акцию, после которой у Лукашенко не повернулся бы язык сказать, что с его политикой не согласны три тысячи националистов.

Я долго терпел издевательство власти над собой. Вначале мне казалось, что заниматься политикой опасно, но теперь я понял, что опаснее всего сидеть тихо и ждать, когда за тобой придут люди в штатском и арестуют только лишь за то, что властям на очередные «Дожинки» понадобились деньги. В последнее время я стал больше думать над тем, что я буду говорить своей дочери, когда она вырастет. Сейчас ей 4 годика, и слава Богу, она пока не понимает, в какой стране живет, но пройдет еще пара лет и она спросит: «Папа, а почему мы такие голодные, а дядя-президент такой сытый и самодовольный?» Что я ей отвечу? Что «дядя-президент» талантливый руководитель? Мы этого наслушались в своем детстве, когда неискренние родители хвалили наших вождей, которые на деле были всего лишь заурядными параноиками.

Один из великих сказал: «если ты не занимаешься политикой, то она приходит в твой дом с веревкой». Сегодня она уже пришла, и я не собираюсь сдаваться.

Хочу обратиться к политикам «новой волны», как их метко назвали журналисты. Спасибо, ребята! Спасибо за то, что не пошли на поводу у амбиций и шкурных интересов, а протянули друг другу руки. И знайте — 17 октября я впервые в жизни пойду на демонстрацию и буду рядом с вами.

**Никита МИРОНЕНКО, предприниматель, г. Минск**

# Згубленыя ў дарозе

## Беларускія дзеці прыехалі толькі на пятыя суткі. Увесь гэты час бацькі нічога не ведалі пра іхні лёс

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

**Дзеці, якія адпачывалі ў Бельгіі па лініі Беларускага фонду міру, спазніліся ў школу. Іхняе аздараўленне суправаджалася непрыемнымі прыгодамі.**

У рэдакцыю патэлефанавалі абураныя жанчыны, якія на працягу чатырох сутак чакалі вяртання сваіх дзяцей з Бельгіі. Ім давялося начаваць у калідоры памяшкання, дзе размяшчаецца офіс фонду міру. Прычым супрацоўнікі фонду не паклапаціліся пра гэтых жанчын з Верхнядзвінска, Рагачова і Мінска.

У той час, калі карэспандэнт НАВІНАЎ прыйшоў у фонд, быў адчынены толькі кабінет кіраўніка справаў фонду Аляксандра Пасюкевіча. Ён не мог растлумачыць, якая арганізацыя ў Бельгіі прымала дзяцей з Беларусі, і не ведаў, дзе канкрэтна яны знаходзяцца ў дадзены момант. Было толькі вядома, што іх запрасіла нейкая пані Ханналорэ, а ў дарозе сапсаваўся транспарт, на якім дзеці вярталіся дадому, і цяпер недзе працягваецца рамонт. Натуральна, што ніхто не ведаў дакладнага часу іх прыезду ў Мінск, і ад няпэўнасці бацькі вельмі хваляваліся. Іхніх дзяцей нарэшце прывезлі толькі ў дзве гадзіны ночы, на пятыя суткі. Як распавялі жанчыны, гэтая паездка ў Бельгію пачыналася таксама з прыгодамі, аднак кіраўнік фонду Марат Ягораў увогуле не звярнуў на гэта ўвагі і сказаў бацькам: «Хочаце вязіце, хочаце не». Падчас вяртання дзяцей бацькі не змаглі застаць Ягорава ні на працы, ні дома. Ніхто не захацеў узяць на сябе адказнасць і супакоіць занепакоеных бацькоў, якія на працягу месяца нічога не чулі пра сваіх дзяцей.



Акрамя фонду, адпачынак арганізоўваў прэзідэнцкі дэпартамент па гуманітарнай дапамозе пад кіраўніцтвам Віктара Кучынскага, які ў гэты час знаходзіўся ў Дагестане. Менавіта гэтае ведамства накіравала некаторых бацькоў у фонд міру для атрымання «пуцёўкі» на аздараўленне дзяцей за мяжой. Асобныя бацькі заплацілі фонду па 30 мільёнаў рублёў за гэты адпачынак, гэта амаль 100 долараў па коштах на травень гэтага года, некаторым гэтую пуцёўку аплацілі на заводзе. Менавіта фонд і дэпартамент павінны былі паклапаціцца пра адпраўленых за мяжу дзяцей і несці за іх адказнасць да апошняй хвіліны, пакуль дзеці не вернуцца дадому. Адбылося наадварот, дзяцей адправілі ў Бельгію «з мірам» і ўсе праблемы спіхнулі выключна на бельгійцаў. ■

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Йошка Фішэр, міністр замежных справаў Германіі, стане на адзін год ганаровым старшынёй Савета NATO.** На гэтай пасадзе Фішэр зменіць міністра замежных справаў Францыі Юбера Ведрына. Паўночнаатлантычны савет прадстаўляе з сябе вышэйшы палітычны орган ваеннага блоку. Яго кіраўніком з'яўляецца генеральны сакратар NATO Хаўер Салана.

■ **Растуць страты федэральных сілаў у Дагестане.** Па дадзеных міністэрства аховы здароўя Дагестана, за апошнія суткі ў Хасаўюртаўскай бальніцы памерла сем з 35 салдатаў федэральных сілаў. Агульная колькасць загінуўшых склала ўжо 20 чалавек. Згодна з паведамленнем інфармацыйных агенцтваў, ісламскія баевікі, якія ўварваліся ў Дагестан з Чачні, захапілі сем вёсак. Яшчэ дзве вёскі знаходзяцца пад кантролем узброеных атрадаў вахабітаў.

■ **Кіраўнік палітычнага крыла Вызваленчай арміі Косава Хашым Тачы заявіў, што акты помсты косаўскім сербам больш не паўторацца.** Выступаючы ў Берліне пасля перамоваў з міністрам замежных справаў Германіі Йошкам Фішэрам, Тачы падкрэсліў, што мэтаю ВАК з'яўляецца ўсталяванне дэмакратыі ў Косава.

■ **Кіраўнік Лівіі Муамар Кадафі заклікаў да аб'яднання афрыканскіх краінаў і ўтварэння саюза па ўзору Еўрапейскага Саюза, Злучаных Штатаў і былога СССР.** Выступаючы ўчора ў Трыпалі на адкрытым саміце афрыканскіх краінаў, Кадафі падтрымаў ідэю ўтварэння кангрэса афрыканскіх краінаў, адзінага банка і суда — у мэтах сапраўднага аб'яднання кантынента.



## УСХОДНІ НАПРАМАК

# Расійскі «дэсант»

## Прэм'ер Уладзімір Пуцін і віцэ-прэм'ер Мікалай Аксёненка прыбылі ў Мінск

**Алег САКАЛОЎ**

Учора ў Мінск прыбыў першы намеснік старшыні ўрада Расійскай Федэрацыі Мікалай Аксёненка. Мэтай ягонага візіту з'яўляецца падрыхтоўка да прыезду ў сталіцу Беларусі кіраўніка ўрада Расіі Уладзіміра Пуціна і заканчэнне падрыхтоўкі прызначанага на 8 верасня паседжання Выканаўчага камітэта Саюза Беларусі і Расіі.

Мікалай Аксёненка ўжо паспеў сустрэцца з Аляксандрам Лукашэнкам і абмеркаваць з ім падрыхтоўку да паседжання Выканкама СБР. Пасля сустрэчы з А.Лукашэнкам першы віцэ-прэм'ер урада Расіі правёў перамовы з прэм'ер-міністрам Беларусі Сяргеем Лінгам.

8 верасня для ўдзелу ў паседжанні Выканаўчага камітэта Саюза Беларусі і Расіі ў Мінск прыбудзе старшыня ўрада Расіі Уладзімір Пуцін. У праграме ягонага візіту — сустрэча з А.Лукашэнкам і наведванне Мінскага трактарнага завода.

Што тычыцца непасрэдна паседжання Выканкама СБР, то на ім плануецца абмеркаваць больш за 20 пытанняў, у ліку якіх: аб стварэнні адзінай мытнай і навуковай прастораў, адзінай транспартнай сістэмы і уніфікацыі заканадаўстваў па ўскосным падаткаабкладанні. Члены Выканкама СБР абмяркуюць таксама ход выканання рашэнняў аб стварэнні роўных умоваў суб'ектам гаспадарання дзвюх дзяржаваў. ■

## НАДВОР'Е




**Сёння ўдзень** па краіне чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, у паўднёва-ўсходніх раёнах кароткачасовыя дажджы, вецер слабы. У наступныя двое сутак, **9—10 верасня**, чакаецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. Тэмпература паветра ўначы — 9–14, удзень — 19–24.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**490 000**

## ПАЛІТЫЧНАЯ АФІША

### Пикеты, проводимые активистами ОГП и Хартией'97, в которых участвуют известные общественные и политические деятели Беларуси

**10 сентября** возле станции метро «Пролетарская» с 15 до 18 часов —**Татьяна ПРОТЬКО**, председатель Белорусского Хельсинкского комитета.

**13 сентября** на пересечении улиц Городской Вал и Немига с 16 до 18 часов — **Юлия ЧИГИРЬ**, супруга экс-прэмьер-министра Михаила Чигиря.

**14 сентября** на бульваре Тракторостроителей с 16 до 18 часов — **Павел КОЗЛОВСКИЙ**, экс-министр обороны, председатель городской организации Объединенной гражданской партии.

**15 сентября** возле станции метро «Пушкинская» в сторону гостиницы «Орбита» с 18 до 20 часов — **Станислав ШУШКЕВИЧ**, депутат Верховного Совета, председатель Белорусской социал-демократической Грамады.

## СЕРАДА



З АЛЯКСАНДРАМ ДУБРАВІНЫМ

### Восень узурпатара

Прайшло лета, канчаецца курортны «аксамітны» сезон, і хутка Чорнае мора пачне асываць, губляць свой блакітны колер, накатвацца на берагі шэрай шматбальнай хваляй. Канчаецца час адпачынкаў.

Вы сёлета адпачывалі на моры? Калі так, дык вам пашанцавала. Многім беларускім грамадзянам гэта было не па сілах. Як, скажыце, атрымліваючы 20 - 30 долараў у месяц у беларускіх зайцах, назапасіць мінімум 250 - 300 «зялёных» для паездкі на Поўдзень? А калі трэба аздаравіць дзяцей? Праблема не ў тым, што трэба многа грошай, каб паехаць у Крым альбо нават на Канары. Праблема ў тым, што іх няма які дзе зарабіць. Рэжым б'е актыўных людзей па руках, цягне апошнія жылы падаткамі, нацкоўвае бюракратаў сваімі дэкрэтамі і інструкцыямі, перашкаджае развівацца прыватным прадпрыемствам і кідае ў занядад прадпрыемствы дзяржаўныя. На аднаго працаўніка – па дзесяць утрыманцаў.

Калі б пяць гадоў назад нашу краіну акупаваў знешні непрыяцель і паставіў сабе мэтай знішчыць яе эканоміку, дык ён зрабіў бы ўсё прыкладна так, як урэшце атрымалася ў А.Лукашэнкі. Трэба было б падарваць фінансавую сістэму краіны, арганізаваць міжнародную ізаляцыю, раскалоць грамадства, перакрыць каналы прыватнай ініцыятывы і інвестыцыяў, ліквідаваць павагу грамадзянаў да закона і ўлады, падтрымаць шматлікія нерэнтабельныя вытворчасці, пашырыць і ўзмацняць паліцэйскія сілы, «замбіраваць» людзей пры дапамозе электронных сродкаў масавай інфармацыі і г.д.

Менавіта таму мы маем тое, што маем. І дванццаць долараў, адабраныя ўладай у кожнага падманутага галоднага беларускага пенсіянера, складаюцца ў выніку ў сорак мільёнаў долараў для шалёнага нейтайманага гойсання па «дажынках», «фестывалях», «базарах». Бо адкуль можа ўзяцца грошы гэты заганны рэжым, як не адабраць? Альбо прадаць штонебудзь, што было адабранае ці прысвоенае? Напрыклад, самалёты беларускай арміі МіГ-29 у Паўднёвую Амерыку. Альбо стогадовыя дубы Белавежскай пушчы. Не зарабляць жа, на самай справе, як нармальныя краіны на вытворчасці канкурэнтнай прадукцыі! Іншая справа, што прадаваць ужо амаль няма чаго. Хіба што ўсю краіну оптам, разам з нетрамі і небам, палямі, дарогамі, газаправодамі і людзьмі.

Ах, Чорнае мора! Хто цябе не паважае? Грамадзянін Беларусі А.Лукашэнка таксама вельмі любіць штогод адпачываць у санаторыі ў Краснадарскім краі. Яму гэта не складана, бо для яго ўсё за казённы кошт. І праезд, і ўтрыманне, і чарка, і скварка, і па тэлевізары сварка. Але няма на свеце шчасця. Няма як лагодзіцца каля марскіх хваляў. Бо ўжо аб'явілі ўзурпатарам дзяржаўнай улады. Бо глядзяць скоса і не любяць, не так, як раней.

А што як паляціш да мора, а назад не пусцяць? Не дадуць паветранага калідора. І ніхто, ніхто ва ўсім свеце не заступіцца. Ні Захад, ні Масква, ні свае, магілёўцы. Маўляў, бяры ты сабе гэты самалёт, толькі не назаляй!

Ага, мабыць, надышла яго, персанальная, восень.

ПРЭСА

## У «Пагоні» адключылі электрычнасць

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

Раніцай электрык ЖЭСа прыйшоў у рэдакцыю гродзенскай газеты «Пагоня», адключыў святло і апячатаў лічыльнік. Камп'ютэры і электронная пошта не дзейнічалі цэлы дзень, праца журналістаў была паралізаваная.

У ЖРЭУ чамусьці вырашылі, што рэдакцыя мае доўг за арэнду памяшкання. Рэдактару М.Маркевічу нават сказалі, што ў 37-ым годзе за такія справы маглі б увогуле расстраляць, а тут усяго толькі выключылі святло. Некалькі гадзінаў спатрэбілася рэдактару, каб камунальнікі разабраліся, што з арэнднай платай усё о'кей. У 17 гадзінаў зноў з'явіўся электрык і даў электраток.

Перад тым вакол «Пагоні» адбыўся яшчэ адзін скандал. Нейкі «пільны» інспектар раяна ўбачыў у гродзенскай школе падшыўку газеты і ўзняў вэрхал на ўвесь горад. Арганізаваць бясплатную падпіску для школаў і бібліятэк рэдакцыі дапамог БАЖ. Аднак, як высвятляецца, у бібліятэках і школах маюць права на існаванне толькі дзяржаўныя газеты. ■

ФОТАЖАРТ



Фота Ул. ШПАГАКА

● А дзе мае ноты?

ЦЫТАТА НУМАРА

> «Людей необходимо учить жить в условиях радиационного риска», – заявил Иван Кеник. Этой же мысли придерживается и координатор проекта Стефанус Иоакемидис, представитель греческой компании, вложившей в проект большие деньги.
>
> *Александр ЗАЙЦЕВ*
> *«Народная газета», 7 сентября 1999г.*

## З Алегам Трусавым судзіцца баяцца

**Рыгор БУЯН**

З-за няяўкі міліцыянтаў-сведак суддзя Савецкага раёна Мінска Іна Шэйко другі раз перанесла суд над старшынёй Таварыства беларускай мовы Алегам Трусавым. Нагадаем, што Трусаў абвінавачваецца ў несанкцыяваным шэсці 27 ліпеня – у дзень абвяшчэння незалежнасці Беларусі.

Міліцыянты, якія павінны сведчыць супраць старшыні ТБМ, не з'явіліся ў суд ужо другі раз. Тым не менш удзельнікі працэсу паўтары гадзіны глядзелі відэастужку пра падзеі 27 ліпеня, якая быццам бы сведчыла пра ўдзел палітыка ў недазволеным шэсці. Як сказаў А.Трусаў, «майго твару там і блізка няма».

Чарговы разгляд адміністратыўнай справы Алега Трусава пройдзе 20 верасня. ■

## Яўгена Асінскага нарэшце адпусцілі

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Праз сорак дзён пасля арышту 3-пад варты пад падпіску аб нявыездзе быў выпушчаны Яўген Асінскі. Ён быў затрыманы падчас акцыі 27 ліпеня, якую праводзіла БСДП (НГ), і абвінавачваецца ў тым, што парушаў правапарадак падчас акцыі і ўдарыў міліцыянта. Спачатку гэта кваліфікавалі артыкулам 201.2 Крымінальнага кодэкса, але ў суботу па хадайніцтве абароны артыкул быў зменены на два больш мяккія: 186/3/ і 189, кожны з якіх прадугледжвае пакаранне да трох гадоў турмы.

Пачатае па справе Яўгена Асінскага следства працягваецца. Пры няўдалым для 20-гадовага хлопца сыходзе, да праведзеных на «Валадарцы» сарака дзён пасля суда прыйдзецца дадаць яшчэ не адзін месяц, а, магчыма, і год. ■

## Незалежную прэсу правяраюць на сумленнасць

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Новы наступ на незалежную прэсу распачалі 30 верасня ўлады. Менавіта з 30-га ў пяці газетах, якія не знаходзяцца на балансе ў дзяржавы: НАВІНЫ, БДГ, «Имя», «Беларуская газета» і «Народная воля», распачаліся чарговыя фінансавыя праверкі, якія працягнуцца не менш як месяц.

Па два-тры падатковыя інспектары ў кожнай з рэдакцыяў старанна вывучаюць усе паперы, ведамасці і плацёжкі, імкнучыся выявіць парушэнні.

З учарашняга дня да пяці вышэйзгаданых газетаў далучыліся і «Свободные новости», куды падатковыя інспектары завіталі таксама. Відавочна, што не іх кампетэнцыя зачыніць газеты звычайным для Дзяржкамдруку шляхам – цераз бязглуздыя папярэджанні, улады выкарыстоўваюць іншы сродак. Такім жа шляхам улады пад кіраўніцтвам Аляксандра Лукашэнкі спрабавалі расправіцца з іншадумцамі і раней. Пакуль ім гэта не ўдалося. ■

## Страйкі ў Магілёве працягваюцца

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Чарговае паведамленне аб хваляваннях працоўных атрымалі НАВІНЫ. У панядзелак на магілёўскім заводзе «Зеніт», які выпускае радыёэлектроннае абсталяванне, каля сарака працэнтаў з працуючых, 1.200 чалавек, не прыступілі да працы, патрабуючы размовы з дырэктарам завода.

Пасля яго з'яўлення рабочыя патрабавалі выплаціць да 8 верасня заробак за ліпень, а да 25 верасня – за жнівень. У адваротным выпадку была прынятая дамова ўсім калектывам ісці на плошчу Леніна і праводзіць страйк там.

Дырэктар завода, не маючы іншага выйсця, паабяцаў выплаціць запазычанасці.

Між тым, у працоўным калектыве існуе дамова, па якой заробак мусіць складаць не менш за 130 працэнтаў ад мінімальнага спажывецкага кошыка, які зараз складаецца з 16 мільёнаў рублёў. Працоўныя ж атрымоўваюць толькі 15 мільёнаў. ■

## З палітыка робяць рэцыдывіста

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

**Юрыю Хадыку пагражае крымінальная справа.**

Вядомы палітык, намеснік старшыні БНФ Юрый Хадыка заяўляе, што апошнім часам улады узмацнілі ціск на яго асобу. Днямі яму былі ўручаныя ажно дзве позвы – адна ў Ленінскі райсуд, другая – у Савецкі РАУС. У абодвух выпадках Юрыя Хадыку збіраюцца прыцягнуць да адміністратыўнай адказнасці за ўдзел у вулічных шэсцях. Між тым, калі Хадыку засудзяць, супраць яго можна будзе ўзбудзіць крымінальную справу як супраць шматразовага парушальніка закона аб дэманстрацыях. Чаму нашая Феміда менавіта зараз узмацніла свой ціск на намесніка старшыні БНФ?

Хадыка звязвае гэта са сваім удзелам у перамовах паміж апазіцыяй і ўладай – ён узначальвае адну з групаў экспертаў ад апазіцыі. Палітык узгадвае, што адной з галоўных умоваў пачатку дыялогу з'яўляецца прыпыненне пераследу палітычных праціўнікаў рэжыму. Між тым факты сведчаць пра тое, што гэтых умоваў беларускія ўлады адпачатку не прытрымліваюцца, аб чым і сведчыць прыклад з Юрыем Хадыкам. ■

ПАРТЫІ

## Абралі «цэнтрыста»

**Алесь СЕРДЗЮКОЎ**

На пасаду старшыні Магілёўскай гарадской Рады БНФ прэтэндавалі тры магілёўцы, дваім з якіх споўнілася 30 гадоў. Згодна з статутам партыі, старшыню выбіраюць сябры Рады. Аднак шэраговыя сябры БНФ настаялі, каб першапачаткова правялі рэйтынгавае галасаванне. У выніку дзве трэці сябраў магілёўскай гарадской арганізацыі БНФ аддалі свае галасы лідэру магілёўскага Маладога Фронту Андрусю Кавалёву. Тым не менш сябры Рады прагаласавалі за 25-гадовага Віталя Макаранку. Той у сваёй перадвыбарчай праграме заявіў, што «стаіць на цэнтрысцкіх пазіцыях і не падтрымлівае кансерватызм пазьнякоўцаў і рэфармізм вячоркінцаў». Напрыканцы канферэнцыі яе дэлегаты ў рэзалюцыі рэкамендавалі Сойму разгледзець пытанне аб магчымасці далейшага знаходжання сп.Крываврота на пасадзе сакратара БНФ. ■

## У ваеннай акадэміі – эпідэмія дызентэрыі

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

У ваеннай акадэміі Беларусі і Вучэбным цэнтры інжынерных войскаў у Соснах пад Мінскам зафіксаваны шматлікія выпадкі захворвання дызентэрыяй. Наогул, захварэлі каля 300 курсантаў і ваеннаслужачых тэрміновай службы.

У сувязі з гэтым Беларуская ваенная пракуратура ўзбудзіла дзве крымінальныя справы ў дачыненні да шэрагу службовых асобаў акадэміі і вучэбнага цэнтра, у прыватнасці, урачоў і начальнікаў харчовых службаў. Следству сумесна са спецыялістамі Санітарна-эпідэміялагічнага цэнтра міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь трэба высветліць прычыны ўзнікшай эпідэміі: або інфекцыя была прынесеная звонку, або заражэнне адбылося з-за невыканання тэхналогіі прыгатавання ежы. ■

## «Белшына» наехала на дэкрэт

**Канстанцін УВАРАЎ**

Работнікі Бабруйскага шыннага камбіната – «Белшына» сабралі 6.800 подпісаў пад зваротам да кіраўніка беларускай дзяржавы аб пераглядзе некаторых палажэнняў дэкрэта №29 А.Лукашэнкі аб умацаванні працоўнай дысцыпліны. У прыватнасці, рабочыя выказалі незадаволенасць пунктам дэкрэта, у якім ідзе размова аб увядзенні абавязковай кантрактнай сістэмы з усімі катэгорыямі работнікаў. Шынікі бачаць у гэтым ушчамленне сваіх правоў і свабодаў. ■

## Герцагіня Люксембургская наведае беларускі дзіцячы дом

**Андрэй АСМАЛОЎСКІ**

Наследная герцагіня Люксембургская Марыя Тэрэза – жонка наследнага прынца Анры, які ў 2000 годзе стане Вялікім Герцагам Люксембурга, – наведае з візітам Рэспубліку Беларусь 25 верасня. Падчас візіту прынцэса наведае дзіцячы дом у пасёлку Дзівін Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці, рэканструкцыя якога ажыццяўлялася пад яе патранажам за кошт сродкаў урада Люксембурга і люксембургскай дабрачыннай арганізацыі P.A.T.LUX. ■



ПАЛІТЫЧНАЯ АФІША

## Паважаны сябра!

У нашай краіне 42 дзяржаўныя рускамоўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы і ніводнай, дзе б выкладанне вялося на беларускай мове. ТБМ імя Францішка Скарыны патрабуе ад уладных структураў дзяржавы адкрыцця Нацыянальнага універсітэта з навучаннем на беларускай мове.

Запрашаем прыхільнікаў роднай мовы прыняць удзел у мітынгу, прысвечаным праблемам беларускамоўнай адукацыі, які адбудзецца з дазволу гарвыканкама **8 верасня 1999 года з 17.00 да 19.00** у Менску, на плошчы перад Палацам чыгуначнікаў (вул. Чкалава).

*Сакратарыят ТБМ*

 



# Чэрствасць чыноўнікаў

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

**У панядзелак калегія па грамадзянскіх справах мінскага гарадскога суда пакінула без змяненняў рашэнне Маскоўскага райсуда аб прыпыненні справы па іску трох бацькоў дзяцей, якія загінулі ў пераходзе станцыі метро «Няміга», і аднаго пацярпелага ў гэтай цісканіне.**

Нагадаем, што пацярпелыя ад гэтай трагедыі патрабуюць ад вінаватых матэрыяльнай кампенсацыі за нанесены маральны ўрон — па чатыры мільярды рублёў. Па хадайніцтве прадстаўнікоў уладаў суддзя прыпыніла разгляд справы па той прычыне, што, маўляў, не завершаная крымінальная справа, узбуджаная па факце трагедыі. Аднак, у той жа дзень прэзідэнт Лукашэнка аб'явіў па тэлебачанні пра завяршэнне крымінальнага расследавання. Цяпер высветлілася, што рэспубліканская пракуратура прадоўжыла яго да 30 верасня, і невядома, ці стане гэтая дата фінішам. Улады спрабуюць зацягнуць справу, спадзеючыся, што боль бацькоў загінуўшых дзяцей прыціхне і ўсе стомяцца шукаць вінаватых.

Пацярпелыя збіраюцца абскардзіць рашэнне гарсуда ў вышэйшай інстанцыі. Пакуль жа відавочна, што ўлады проста адфутбольваюць стомленых ад гора людзей, якія хочуць хоць дзе-небудзь дабіцца праўды. Як інакш можна назваць валакіту з рэгістрацыяй у міністэрстве мінскага грамадскага аб'яднання «Цэнтр сацыяльнай абароны «Няміга-99». Улады спалохаліся, што, аб'яднаўшыся разам, бацькі затаптаных дзяцей і пацярпелыя не дадуць ім спакойнага жыцця. «Няміга-99» збіраецца ўвекавечыць памяць загінуўшых у пераходзе метро, а таксама аказваць матэрыяльную і іншую дапамогу пацярпелым, іх родным і блізкім. Яны мяркуюць адкрыць рахунак, на які павінны быць пераведзеныя ўсе ахвяраванні.

30 чысла кожнага месяца а 19 гадзіне бацькі і пацярпелыя сустракаюцца на месцы трагедыі, у пераходзе каля станцыі метро «Няміга». ■

**ЭКАНОМІКА**

# Голад — лепшы лекар ад дэмагогіі

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

**Можа ўпершыню ў гісторыі Беларусі сёлета ў школу пайшлі дзеці, якія не ведаюць, што такое капейка. Ужо і шмат хто з дарослых пачаў забываць, што некалі нейкая грашовая драбяза звінела ў кішэні. Ды і ўвогуле, аднаго рубля хапала на тое, каб з'есці «комплексны абед» у заводскай сталоўцы, купіць пачак «Прымы» ды выпіць пасля змены куфаль піва з сябрамі.**

Можа таму, згадаўшы мінулае, рабочыя Бабруйскага завода трактарных дэталяў вырашылі правесці вельмі дзіўную акцыю. І паколькі краіна працуе ва ўмовах дысцыплінарнага дэкрэта, што робіць розныя там страйкі вельмі небяспечнымі для іх удзельнікаў, бабруйчане зранку 23 жніўня дысцыплінавана занялі свае працоўныя месцы, але да працы не прыступілі.

«Чаму?» — пацікавілася начальства. «А таму, — пачула ў адказ, — што людзі галодныя. А галоднага чалавека нельга прымушаць да працы, бо ад фізічнага напружання ён можа згубіць прытомнасць ці нават памерці». А справа ў тым, што на канец жніўня завод не заплаціў сваім працаўнікам заробак яшчэ за чэрвень. Зразумела, што і за ліпень таксама грошы яны не атрымалі. Такім чынам свае адносіны да сацыяльна-эканамічнай палітыкі ўладаў выказалі практычна ўсе рабочыя асноўных цэхаў. Што показальна, яны не пайшлі на ўступкі нават тады, калі дырэкцыя паабяцала выплаціць чэрвеньскую запазычанасць. І толькі пасля таго, калі «знайшліся» грошы на тое, каб заплаціць даўгі цалкам, гэты нетрадыцыйны страйк, уласна кажучы, байкот, быў спынены. Такая форма пратэсту не прадугледжаная і не забароненая ніякім заканадаўствам, гэтак жа не прадугледжаныя і затрымкі з выплатай заработнай платы. Галодны чалавек працаваць не можа, не павінен.

Супраць гэтага сцвярджэння не запярэчыць ніводзін прыхільнік нашага так званага прэзідэнта і нават ён сам. Бо на яго дэмагагічнае жыццё адказвае таксама дэмагагічна: калі ты даў чалавеку працу, дык аддай і заробленыя ім грошы. Усё астатняе — гэта казанні на карысць жабракоў.

Адзінымі штрэйкбрэхерамі аказаліся майстры ды іншае цэхавае начальства, у чым, уласна кажучы, няма нічога дзіўнага, бо і інжынеры, і сярэднія кіраўнікі, бадай, ніколі не мелі на савецкай вытворчасці ні ўласнай думкі, ні права голасу.

Бабруйскі завод належыць да ВА «Мінскі трактарны завод», і таму справы тут амаль цалкам вызначаюцца становішчам у Мінску. А яно не тое што кепскае, а вельмі кепскае. І тут упершыню за апошнія гады была даволі значная затрымка з выплатай зарплаты, а галоўнае ў тым, што ўсе заводскія пляцоўкі забіты трактарамі, якія пакуль што немагчыма прадаць.

А грошы патрэбныя як для аплаты працы, так і для разлікаў з пастаўшчыкамі. З іх асобна выдзелім Мінскія заводы маторны і шасцерняў, якія з'яўляюцца для МТЗ асноўнымі.

Такая сітуацыя на дзяржпрадпрыемствах, якія маюць ад кіраўніцтва краіны пэўныя паслабленні ды льготы. Але што тычыцца прадпрымальніцтва, то дзяржава іх хіба толькі дустам не пасыпае, бо хоць і «вашывыя блохі», але ж усёткі нейкія людзі. Ды і многіх. А ўсё астатняе — на поўную катушку. Прычым, улады, канешне ж, прыкрываюцца інтарэсамі народа. Вось і цяпер, калі набывае юрыдычную сілу той пункт дэкрэта прэзідэнта за № 14 ад 4 жніўня бягучага года, па якім у грамадзянаў і прадпрымальнікаў будуць канфіскоўваць маёмасць (тавар) без суда і следства па фармальных падставах. У прыватнасці, пры адсутнасці дакументаў па гігіенічнай рэгістрацыі і сертыфікацыі тавараў. Канешне, усе мы зацікаўленыя ў тым, каб нам прадавалі якасную прадукцыю. Але ж бывае, што ў казённым гандлі нам падсоўваюць натуральнае фуфло як айчыннай вытворчасці, так і замежнае, але ніхто там тавары не канфіскоўвае. Па-другое, асноўная маса збяднелых пакупнікоў звычайна шые на гарадскія рынкі, мінуючы крамы, бо і выбар багацейшы, і цэны не такія кусачыя. Па-трэцяе, і ў гэтым я бачу заслугу прадпрымальнікаў перад краінай і народам, менавіта яны пазбавілі нас ад татальнага былога дэфіцыту, калі ўяўлялася, што жыць без «прыглашения на сахар» немагчыма ўвогуле. І нарэшце галоўнае. Прыняўшы гэты дакумент, дзяржава не стварыла ўмоваў для сертыфікацыі.



Таму апаратыўна ўсе патрэбныя паперы атрымаць немагчыма, а гандаль — гэта такая галіна, якая павінна працаваць бесперапынна. Таму прадпрымальнікі аб'явілі аб агульнарэспубліканскай забастоўцы з прыпыненнем уплаты падаткаў ды іншых відаў плацяжу. Дарэчы (вось табе і блыха!), розныя віды прадпрымальніцтва даюць казне 39 працэнтаў ад усіх падаткаў. У асобных населеных пунктах, дзе няма ўстановаў па сертыфікацыі, усё гэта вельмі падобнае на здзек. Прыкладам, у Оршы, адкуль за сертыфікатамі трэба ехаць у Віцебск. Тут налічваецца каля 1.000 прадпрымальнікаў, а калі палічыць гандляроў з іншых раёнаў, з самой абласной сталіцы, гаворка пойдзе пра дзесяткі тысяч чалавек. А па ўсёй Беларусі — сотні тысяч. Уявіце сабе такую чаргу і тых магчымасці, якія яна дае карыслівым чыноўнікам. Таму на аршанскім рынку 29 жніўня адбыўся стыхійны сход, на якім было вырашана з 1 верасня распачаць страйк на месяц, за які неабходна правесці перагаворы з уладамі і зняць усе спрэчныя пытанні, а калі гэта мэта не будзе дасягнутая, страйк можа стаць бестэрміновым. Ці трэба казаць, што ў нас усё знаходзіцца пад пільным і зацікаўленым даглядам. Таму праз дзень старшыня прафсаюза прадпрымальнікаў Оршы Аляксандр Сталяроў і лідэр мясцовай філіі Свабоднага прафсаюза Беларускага Віктар Андрэеў былі выкліканы ў міліцыю. Далей адбыўся суд, які аштрафаваў кожнага на 20 мільёнаў за арганізацыю несанкцыянаванага сходу. Так улады звычайна змагаюцца з тым, што некалі Ленін, не падумаўшы, назваў «жывым творчеством масс» (народная, усе ж улада!). Мо таму, калі 31 жніўня «штрафнікі» з'явіліся на рынку, іх сустрэў новы і больш людны стыхійны сход. Сабраліся каля 500 прадпрымальнікаў, якія вырашылі даць лідэрам грошы на выплату штрафаў (бо за ўсіх старацца!), а калі міліцыянты паспрабавалі на месцы арыштаваць Андрэева, народ не дазволіў гэтага зрабіць.

Ведаю, што ёсць такія, што, раз зрабіўшы выбар на карысць гэтага лідэра, а потым і пацвердзіўшы яго (далі «царскія паўнамоцтвы»), не гатовыя прызнаць уласныя памылкі чыста псіхалагічна. Але голад — гэта сродак радыкальны.

І, як бачым, ён добра прачышчае мазгі. ■

**МЕРКАВАННЕ КРАІНЫ**

**Сегодня мы начинаем публикацию результатов августовских социологических исследований, которые проводит лаборатория «НОВАК» Андрея Вардамацкого. Опрос был проведен 10-16 августа 1999г. Репрезентативная выборка — 1.097 человек.**

# Как Беларуси выходить из кризиса?







Подавляющее число белорусов считает, что страна находится в состоянии экономического кризиса. Если в опросе по республике эта цифра приближается к 60-и процентам, то в столице с этим тезисом согласны 74,2%. Навряд ли стоит говорить о том, что жители Минска живут хуже провинции, скорее запросы тех, кто живет на периферии, несколько занижены.

Настоящей сенсацией выглядят результаты ответов на второй вопрос. Как среди опрошенных по стране, так и среди респондентов, живущих в столице, большинство считает, что для выхода из экономического кризиса Беларуси необходимо вступить в Европейский Союз. Если эта цифра столь велика при ведении властями активной пропаганды против Европейского сообщества, то при объективном информировании населения в электронных средствах массовой информации подобную точку зрения разделяло бы подавляющее большинство жителей страны.

Чуть более 23% белорусов считают, что для выхода из кризиса необходимо объединиться с Россией. На сегодняшний день Российская Федерация сама находится в глубоком экономическом кризисе, и подобный тезис выглядит более чем сомнительным. Скорее всего, на четверть жителей Беларуси влияет та пропаганда, которая активно разрабатывается властями на протяжении 5-и лет.

Показательно, что абсолютное меньшинство населения считает, что все нужно «оставить как есть». Это обнадеживает и вселяет уверенность в то, что наша страна находится на пороге перемен. ■

# З «ценявым» прэм'ерам прыйдзецца пачакаць

**Рыгор БУЯН**

**У парадку дня чарговай сесіі Вярхоўнага Савета 13-га склікання няма пытання аб прызначэнні прэм'ер-міністра ствараемага апазіцыяй урада.**

Пра гэта паведаміў НАВІНАМ выканаўца абавязкаў старшыні ВС Віктар Ганчар. Міхаіл Чыгір, прадстаўленне на якога спікер Сямён Шарэцкі даслаў у ВС, узяў самаадвод. Як гаворыцца ў адмове, «па вядомых прычынах». Іншага прэтэндэнта на пасаду «ценявога» прэм'ера пакуль няма.

Замест прызначэння прэм'ера сесія ВС, якая пройдзе 18—19 верасня, разгледзіць чатыры іншыя пытанні. Пасля адкрыцця сесіі і стварэння рабочых органаў свой даклад прадставіць мандатная камісія. Яна дакладзе ВС пра колькасны склад парламента. Па гэтым пытанні будзе прынятая адпаведная пастанова, а ў заключэнне сесіі з палітычным дакладам выступіць в.а.старшыні ВС Віктар Ганчар.

Апрача таго, у сувязі з падрыхтоўкай да перамоваў апазіцыі з выканаўчай уладай, на 13 верасня плануецца сумеснае паседжанне Прэзідыума ВС з міжпартыйным Кансультатыўным саветам. Мяркуецца, што па выніках сустрэчы будзе прынятая канцэпцыя аб сумесных палітычных дзеяннях. ■

 

# Сеча пад Оршай

Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ

**Пачынаючы з 1992 года ў Беларусі 8 верасня адзначаецца Дзень Беларускай вайсковай славы. Важнай падзеяй у гісторыі нашага народа гэты дзень стаў дзякуючы перамозе ў Аршанскай бітве 1514 года над войскам маскоўскіх захопнікаў. Свята не прызнаецца цяперашнімі ўладамі, якія дзеля інтэграцыі вычышчаюць з памяці народа ўсё, што супярэчыць тэзісу «брацкай» дружбы Расіі і Беларусі.**

На пачатку XVI стагоддзя ішла жорсткая барацьба ва Усходняй Еўропе паміж Маскоўскім вялікім княствам і Вялікім Княствам Літоўскім, Рускім і Жамойцкім (Беларуска-Літоўскай дзяржавай). Маскоўскае княства яшчэ не набрала сілы, але ўжо было небяспечным.

Улетку 1514 года падчас чарговай вайны маскоўскім войскам удалося захапіць Смаленск. Вялікі князь маскоўскі Васіль III накіраваў 80-тысячнае войска для захопу Беларусі. На чале гэтага вялікага войска стаялі галоўныя ваяводы — баярын Іван Чаляднін і баярын князь Міхаіл Булгакаў-Галіца, продак князёў Галіцыных.

Каб папярэдзіць наступ маскоўскай арміі, вялікі князь літоўскі (ён жа кароль польскі) Жыгімонт Казіміравіч накіраваў насустрач захопніку 30-тысячнае войска пад началам вопытнага палкаводца — найвышэйшага гетмана Канстанціна Іванавіча Астрожскага.

Паводле расійскага гісторыка М.Любаўскага, у гэтым войску было 4 тысячы польскіх коннікаў, а астатнія польскія жаўнеры не паспелі да войска. Значную большасць войска Астрожскага складалі беларускія рыцары.

Асобнымі атрадамі беларускага войска камандавалі Юрый Радзівіл і Іван Сапега.

Пасля некалькіх баёў на Бярэзіне, рэках Бобр і Друць маскоўскае войска пераправілася на ўсходні бераг Дняпра і стала на палях паміж Оршай і Дуброўнай на рацэ Крапіўна. Астрожскі таксама вырашыў даць бой у гэтым месцы. Ён лічыў, што адзін-паўтара кіламетра ад Дняпра дастаткова, каб разгарнуць свае сілы. Псіхалагічны момант — немагчымасць адступлення (ззаду стромкі бераг ракі) — таксама браўся ў разлік.

7 верасня 1524 года князь Астрожскі правёў дэманстрацыйны манеўр.

Недалёка ад Аршанскага замка ён пераправіў на левы бераг Дняпра некалькі тысяч коннікаў. Але маскоўскія ваяводы бяздзейнічалі, чакаючы, пакуль не падыдзе ўсё беларускае войска.

Уначы з 7 на 8 верасня Канстанцін Астрожскі вышэй па цячэнні Дняпра пераправіў усю пяхоту і гарматы па двух наплыўных мастах, зробленых з заканапачаных бочак і насцілу на іх.

Конніца ж адолела Днепр па вузенькім бродзе або ўплаў.

Раніцай абодва войскі сталі ў баявым парадку. Маскоўскія ваяводы і коннікі былі заспакоеныя ў перамозе над непрыяцелем. Беларускае войска выступала пад чырвоным дзяржаўным сцягам з сярэбранай выявай Пагоні на адным баку і выявай Багародзіцы з дзіцяткам Ісусам — на другім. У кожнага з беларускіх коннікаў у руцэ была доўгая дзіда з белым сцяжком і чырвонай палоскай на ім.

Разгарэлася жорсткая бітва паміж маскоўскім палком правай рукі на чале з Булгакавым-Галіцай і конніцай Астрожскага. Чаляднін у бой не ўступаў з-за суперніцтва паміж маскоўскімі ваяводамі: кожны з іх хацеў перамагчы асабіста, таму яны не дапамагалі адзін аднаму. Тым больш, што ў кожнага было больш воінаў, чым у Астрожскага ўвогуле. Конніца Булгакава-Галіцы вымушаная была адступаць і была разбітая.

Урэшце і Чаляднін павёў свае палкі ў атаку. Завязалася бітва і на правым флангу войска Астрожскага. Нечакана для ворага (па загадзе гетмана Астрожскага) коннікі Астрожскага пачалі адступаць.

Тады, перакананы ў сваёй перамозе, Чаляднін кінуў у бой усе сілы. Але ў пэўны момант непадалёк ад лесу, амаль ля самага Дняпра, конніца Астрожскага падзялілася на дзве часткі, якія зманеўравалі ў два бакі. Уся маса маскоўскіх коннікаў апынулася перад пяхотай і гарматамі, якія расстралялі пярэднія і заднія рады маскоўскай конніцы. Пачалася паніка. Цяпер ужо ўцякалі рэшткі абодвух флангаў маскоўскага войска. Адны — у лясы, другія — у балоты. Шмат уцекачоў патанулі ў Крапіўне...

Бітва працягвалася да заходу сонца і закончылася поўным разгромам маскоўскага войска. Паводле звестак германскага пасла С.Герберштэйна, які, едучы ў Маскву ў 1517 г., сустрэўся ў Вільні з палоннымі ваяводамі І.Чаляднінным і М.Булгакавым-Галіцай, страты маскоўскага войска склалі 40 тысяч чалавек забітымі і 5 тысяч палоннымі.

Васіль III заявіў (дарэчы, як і Сталін у 1941—1945 гг.), што для яго тыя, хто трапіў у палон, мёртвыя. Дзесяткі гадоў заставаліся палонныя ў Вільні, у розных вялікакняскіх дварах і валасцях. Чаляднін памёр у Вільні праз некалькі гадоў, Булгакаў-Галіца вярнуўся на радзіму у 1552 годзе і неўзабаве памёр.

Перамога беларускага войска пад Оршай прыпыніла маскоўскі наступ на Беларусь. Былі вернутыя захопленыя раней праціўнікам Дуброўна, Мсціслаў і Крычаў. Усходняя мяжа Беларусі замацавалася на стагоддзі. Практычна яна захавалася да нашага часу.

Вялікі князь Жыгімонт Казіміравіч у Вільні наладзіў урачысты прыём у гонар князя Астрожскага і рыцараў-пераможцаў. Канстанцін Астрожскі зрабіў у сталіцы багатую фундацыю царкве Свята-Духаўскага праваслаўнага манастыра — у падзяку Богу за дараваную перамогу.

Бітва пад Оршай пакінула глыбокі след у тагачаснай беларускай, украінскай і польскай літаратуры. Яе адлюстравалі ўсе тагачасныя летапісы (у тым ліку і рускія) і хронікі. У Германіі выйшаў спецыяльны друкаваны лісток, у якім апісвалася бітва. Адзін з удзельнікаў бітвы намаляваў у 1520 годзе карціну «Бітва пад Оршай». Гэта было першае батальнае палатно ва Усходняй Еўропе.

Бітва пад Оршай вывучалася ў вайсковых вучэльнях Расійскай імперыі. Як прыклад вайсковага таленту Канстанціна Іванавіча Астрожскага яна прыведзеная ў Расійскай ваеннай энцыклапедыі (1914 г.).

Бітва пад Оршай 8 верасня 1514 года ёсць і застанецца славутай старонкай беларускай вайсковай гісторыі. Пройдзе неспрыяльны час, і гэты дзень стане дзяржаўным святам Беларусі. ■



# Слава дзядоў

Кастусь ТАРАСАЎ

**Святкаванне Дня вайсковай славы пачалося 8 верасня ў той год, калі былое савецкае афіцэрства байкатавала прысягу на вернасць Беларусі, даводзячы, што прысяга даецца адзін раз. Яны давалі яе СССР, а калі Саюз знік, дык пераемніцай стала Расія. І тады на плошчы Незалежнасці ў Мінску тысячы ваеннаабавязаных запасу распісаліся на прысяжных лістах — на вернасць Беларусі. Але не таму, што ў гэты дзень некалі адбылася Аршанская бітва.**

Так, гэтая бітва — адна з буйнейшых у XVI стагоддзі. Вялікі князь Жыгімонт Стары здолеў выставіць 35 тысяч войска. У гэтым ліку было 16 тысяч беларуска-літоўскага коннага апалчэння, 14 тысяч польскай конніцы, 3 тысячы наёмнай пяхоты і 2 тысячы добраахвотнікаў. Але 4 тысячы ваяроў засталіся пры вялікім князі, які стаяў у Барысаве. Пад Оршу насустрач рускім рушыла 30 тысяч на чале з гетманам Астрожскім. Бітва праходзіла на палях паблізу Аршанскага замка, дзе рэчка Крапіўна ўпадае ў Днепр. У выніку сечы маскоўцы страцілі палову забітымі, шмат воінаў трапіла ў палон. Бітва прыпыніла шырокі маскоўскі наступ на Беларусь.

Але на кароткі тэрмін. Наступным годам адбыўся паход пскавічоў на Браслаў і Друю, а маскоўскіх палкоў — на Мсціслаў, Віцебск, Полацк. У 1517 годзе зноў меў месца напад маскоўскіх войскаў на Вялікае Княства. Баі вяліся пад Мінскам і Вільняй. Маскоўцаў разбілі пад Полацкам. Наступным годам наўгародскія і пскоўскія палкі хадзілі на Полацк. 1519 год адзначаны паходам маскоўскіх аддзелаў на Беларусь, разбурэннем Маладзечна, Крэва і Ашмянаў. У лютым 1520 года маскоўскі ваявода Гадуноў ваяваў Полацк і Віцебск. У снежні 1534 года маскоўскае войска спаленнем шэрагу мястэчак і вёсак на Мсціслаўшчыне і Полаччыне распачало трохгадовую вайну. Спіс можна працягваць колькі заўгодна, і ён сведчыць, што Аршанская перамога не пераламіла сітуацыі стратэгічна, а мае значэнне выключна з пункту гледзішча ваеннай удачы.

У паражэнні рускага войска пад Оршай адыграла ролю суперніцтва паміж маскоўскімі ваяводамі. Гэта, відаць, рыса нацыянальнага характару. З-за асабістых амбіцыяў, нежадання падпарадкавацца іншаму князю татары разбілі рускія палкі на Калцы. У Маскве ў 1612 годзе адно рускае войска дзве гадзіны назірала, як гіне пад шаблямі конніцы Ілжэдзмітрыя другое. Так што можна зразумець князя Васіля III, калі ён пракляў сваіх ваяводаў, якія, маючы трохкратную перавагу, паклалі палову войска ў магілу.

У бітве, якая здарылася 485 гадоў таму, біліся нашы продкі 10—12 калена. За што людзі змагаюцца? За сваё жыццё, за радзіму, за родных, за сваю мову і культуру. Што з гэтага пераліку ў наступныя стагоддзі нашчадкі пераможцаў пад Оршай ды і мы, сённяшнія, не страцілі? Што мы маем святкаваць, чаму радавацца? Што пяць стагоддзяў таму ў полі над Крапіўнай ляжалі 40 тысяч мёртвых маскалёў? Ну, а на якой мове сёння гаворыць нашае насельніцтва? Продкі ў тым стагоддзі зберaглі мову і культуру. А мы — іхныя праўнукі? За малым выключэннем забыліся на ўсё і спім. І таму прыкра глядзець на тэатралізаваныя пастаноўкі, якія адбываюцца 8 верасня на плошчы Парыжскай Камуны, калі ад драўлянага меча падае «маскаль», што нібыта сімвалізуе Беларускую вайсковую славу. Для мяне — гэта сімвал нашага глупства. Лепш у гэты дзень, шануючы кроў, мужнасць і славу продкаў, пастарацца ўсім разам з ранку да ночы размаўляць на роднай мове пра свае сённяшнія праблемы. Можа апякунша Беларусі — Маці Божая — пачуе нас і дапаможа. А відовішча драўляных мечаў і палымянай пахвальбы справамі дзядоў наўрад ці натхніць Яе на клопат. ■

НАЗІРАЛЬНІК

# Льготны патрыятызм

Мікола ВАЙТОВІЧ

Патрыятычны саюз моладзі выпусціў рэкламны буклет «Членскі білет БПСМ — твая сацыяльная абарона». У ім гаворыцца, што білет «лукамольцаў» дазваляе карыстацца скідкамі за пражыванне ў гатэлях, пры наведванні маладзёжных кафэ і іншых установаў. Найбольшы спіс 37-мі льготных адрасоў прадставіла Віцебская вобласць. Радавы «лукамолец» мае права, напрыклад, атрымаць усе віды медыцынскіх паслугаў з 20-працэнтнай скідкай у Наваполацкім цэнтры народнай медыцыны, а таксама ўсе паслугі ў віцебскай ветэрынарнай фірме.

Члены БПСМ удзяляюць вялікую ўвагу здароўю. У Магілёве ўладальнікам білета прапануюць прайсці са скідкай псіхатэрапію.

Льготы для «лукамольцаў» прадастаўленыя на самыя неабходныя жыццёвыя рэчы. У аршанскім універмагу яны могуць набыць тавары з 5-працэнтнай скідкай, адрамантаваць гадзіннікі ці абутак, зрабіць прычоску ці фотаздымак. Але самае цікавае, што 15 прадпрыемстваў адпачынку ў Балгарыі таксама прадастаўляюць 10-працэнтныя скідкі для «лукамольцаў».

За гэтыя льготы БПСМ мяркуе купіць сярод моладзі новых членаў сваёй арганізацыі. ■

АФІША





© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 595 Нумар падпісаны ў друк 07/09/99 (15:00) Наклад — 16.990